# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская 9. (Wilno, Ostrobramska 9).
АДЧЫНЕНА што дня, апрача сьвят, ад 11 да 2 гадзіны.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку папэры, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.**
Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., пасьля тэксту 200 м. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту у 1 шпальту

Год II. Вільня, Субота, 11 сакавіка 1922 г. № 7 (32)

## Ад Цэнтральнае Беларускае Школьнае Рады.

Гэтым даводзіцца да агульнага ведама, што ў распараджэньні Рады знаходзіцца цэлы рад стыпэндыяў у вышэйшых школах Чэха-Славацкай Рэспублікі для беларускае маладзежы з сярэдняй адукацыяй. Беларусы і беларускі, маючыя атэстаты аб скончэньні сярэдніх школ могуць зьвяртацца да Рады з просьбай аб прызначэньні ім гэтых стыпэндыяў. Да просьбы павіны быць далажачы дакумэнт аб асьвеце, ці яго нотарыяльная копія і жыцьцярыс — пажадана, каб быў пасьведчаны беларускімі арганізацыямі, ці хоця-б вядомымі дзеячамі. Стыпэндыі перад усім будуць выдавацца асобам, прымаўшым актыўны удзел у нацыянальным жыцьці.

Старшыня Б. Тарашкевіч

Сэкрэтар А. Смоліч



*Зьвяртаем увагу шаноўных чытачоў, што рэдакцыя „Беларускага Звону“ перанесена на Вострабрамскую вуліцу № 9.*

*Вільня 11 сакавіка 1922 г.*

У працягу апошняга тыдня толькі й гутаркі было, што аб Віленшчыне. Як ведама, дзеля таго, каб далучыць Віленшчыну да Польшчы, Віленскі Польскі Сойм выбраў спэцыяльную дэлегацыю з дваццацёх асоб. якім і даручыў падпісаць у Варшаве з польскім урадам умову аб далучэньні да Польшчы. І вось, віленская дэлегацыя прыехала ў Варшаву.

Польскі ўрад на чале з Панікоўскім запрапанаў дэлегатам падпісаць прыгатаваную ўжо ўмову, згодна з якой—Варшаўскі Сойм павінен быў-бы даць Віленскай зямлі асобны статут, на аснове якога пабудаваны быў-бы яе аўтаномны устрой і акрэсьляны ўзаемаадносіны паміж Віленшчынай і Польшчай.

Відаць, што Варшава (Сойм і Урад) запрапанавала для Віленшчыны асобны статут не таму, што не хацела далучыць Віленшчыну „без варункаў і засьцярог“. Яна з вялікаю ахвотаю зрабіла-б гэта, каб ёй дазволілі,—каб безварункавае далучэньне ня выклікала непажаданых для Польшчы пасьледзтваў па Віленскаму пытаньню. Сойм і Урад польскія мусіць добра былі паінфармаваны аб магчымых пасьледзтвах **„wcielenia“**, калі настайвалі на асобным статуце.

Але, што вы зробіце з тупымі галовамі эндэкаў. Ім ніяк не ваб'еш у розум, што безварунковае далучэньне можа выклікаць і з боку Лігі Народаў, і з боку бальшавікоў крокі, не карысныя для Польшчы і што—замест злучэньня Віленшчыны з Польшчай на тых ці іншых аўтаномных варунках — Віленшчына утраціць магчымасьць злучэньня з Польшчай.

Дзякуючы ўпартасьці дзесяцёх эндэцкіх дэлегатоў, адмовіўшыхся падпісаць з Польскім Урадам умову, выйшаў страшэнны, нябачаны яшчэ скандал.

Урад Панікоўскага выйшаў у адстаўку, пасьля чаго няма каму падпісаваць умову з боку Польшчы.

Сталі шукаць выхаду з утворанага эндэкамі палажэньня. Трэба было стварыць новы габінэт, які і падпісаў-бы ўмову з Віленскай дэлегацыяй. Аднак, гэтая справа аказалася не такою лёгкаю, дзеля таго што не знаходзілася асобы, якую падтрымала-б большасьць Сойму.

А тут яшчэ і прадстаўнікі Францыі, Англіі і Італіі заявілі Скірмунту свой пратэст проціў безварунковага далучэньня і папярэдзілі аб магчымых цяжкіх для Польшчы пасьледзтвах далучэньня.

І што-ж мы бачым?

Пасьля непатрэбнага і шкоднага для Польшчы палітычнага скандалу знойдзен урэшце выхад у даручэньні таму-ж самаму п. Панікоўскаму сфармаваць кабінэт міністраў, г. ё., прызнака, што Панікоўскі рабіў правільна, адмаўляючыся ад уступкі эндэцкім дамаганьням.

Эндэцыя пацярпела моцную няўдачу, галоўны сэнс якой ні ў адным тым, што яна не дабілася свайго, а ў тым, што яна дамагалася свайго самым скандальным, нявіданым спосабам падрыву ўсей польскай дзяржаўнасьці.

**Ш—і.**

## Пара адумацца.

На тэй часьці Беларусі, якая ў гэты мамэнт знаходзіцца пад польскаю ўладай, у прыгнечаных беларускіх масах ідзе дваякі рух. Адзін—гэта рух нацыянальны, рух, які мае на мэце культурнае і нацыянальнае адраджэньне беларускага сярмяжнага люду. Гэта рух эвалюцыйны, рух творчы, бо інакшым і ня можа быць рух культурна-нацыянальны. Нічога ён ня руйнуе, нічога ня бурыць, а толькі прасьветай народу—праз школу, кніжку, газэту—разьвівае душу народную, узбагачвае сэрца і розум беларусаў, будзіць нацыянальную сьвядомасьць і гуртуе беларускіх культурных рабачаяў.

Здаецца, каму і як можа шкодзіць гэты рух?

Аднак-жа ёсьць элементы, для якіх ён стаўся соляй у ваччу. Проці яго выступіла вельмі востра польская ўлада, апіраючыся на нацыяналістычна настроеную большасьць польскага грамадзянства,—і гэта толькі з тае прычыны, што самым сваім жаданьнем жыць беларусы працівяцца польскаму жаданьню праглынуць беларусаў, спольшчыць іх, абярнуць у пакорных, паслухмяных парабкоў для польскага „культурнага“ панства.

Вось у гэтым апошнім і ўвесь „праступак“ тых беларускіх культурных працаўнікоў, якіх польская ўлада арыштоўвае і бяз сьледзтва і суда высылае з роднага краю—на бадзяньне ў чужыне. Вось, чаму бяз ніякае відочнае і абаснованае прычыны разганяюцца і зачыняюцца беларускія школы, каапэратывы і т. п. Вось, чаму ўлада ламае пастановы сваей-жа польскай конституцыі, якая хоць на паперы «забясьпечвае» правы нацыянальных меншасьцяў...

Побач з рухам культурна-нацыянальным, пачуцьцё крыўды і зьдзеку ў уціскаsuccessful народных масах беларускіх няўхільна будзіць дух бунту, вызывае палітычны і соцыяльны рэвалюцыйны рух.

Зусім ясна, што гэты апошні рух запраўды можа стацца грозным для нашых цяперашніх валадароў, можа быць небясьпечным для польскага панаваньня на Беларускай зямлі. Польская ўлада гэта вельмі добра разумее, бо дзеля барацьбы з ім дзяржыць у нас вялізарнае войска і наймае цэлыя хмары „шпікоў“, не шкадуючы народных грошы. Замест таго, каб даць натуральны выхад беларускім жывым сілам на грунце творчае, культурнае працы, польская ўлада нацыянальным уціскам беларусаў як-быццам зумысьля заганяе наш народ да гэтага другога руху, заўсёды небясьпечнага і для Польшчы, і для нас самых: пры нашым палажэньні кожная беларуская культурная сіла перш за ўсё павінна быць выкарыстана дзеля культурнага будаваньня Беларусі.

Пры гэтым польская ўлада зусім сьвядома заплюшчвае вочы на той усім добра вядомы факт, што беларускі культурна-нацыянальны рух і рух рэвалюцыйны—далёка не адно і тое. Наадварот: усіх беларускіх дзеячоў — кожнага вучыцеля, каапэратара, журналіста, ксяндза-беларуса, кожнага беларускага інтэлігента наагул польская ўлада бяз ніякае асновы вінавацiц у „бальшавізьме“ і гэткай выдумкай стараецца апраўдаць нябывалае навет за царскіх часоў прасьледаваньне ўсяго беларускага.

Так у самых спакойных „культурнікаў“ штучна распаліваецца дух пратэсту, дух бунту і ненавісьці, жаданьне барацьбы...

Так рабіў некалі і маскоўскі царскі ўрад, заганяючы ўсіх „інародцаў“ у рады рэвалюцыйнае арміі...

Ня шкодзіла-б Польшчы сур'ёзна задумацца аб тым, куды вядзе яе палітыка, і здаць сабе ясную справу аб тым, каму прыдзецца пажынаць горкія плады такой палітыкі!

**Ярашэўскі.**

## Справа ксяндза Пятроўскага.

Нарэшці справа кс. Пятроўскага закончана. Закончана яна дзеля таго, што ня было повадаў абвінавачаньня.

А на голаву кс. П. ўсвой час валіліся цяжкія закіды: казалі аб нейкай Барунскай рэспубліцы, якая быццам мелася адарвацца ад „Сьродковай Літвы“, аб зносінах з бальшавікамі (вечны закід, які заўсёды паўтараецца ў адносінах да арыштаваных беларусаў!) і г. п.

Эндэцкая прэса факт арышту кс. Пятроўскага спаткала з радасьцю. Шчыры дэмакрат, які адкрыта прызнаваўся да свае прыналежнасьці да беларускага народу і меў значны ўплыў на акалічнае сялянства, быў вельмі непажаданы шовіністычным польскім элемэнтам, якія ўсімі сіламі стараліся зглуміць усё беларускае ў краі.

Аўтару гэтых слоў хутка пасьля арышту кс. П. здарылася быць на фэсьце ў Барунах, які польская эндэцыя старалася выкарыстаць дзеля сваіх палітычных мэтаў. Калі прамоўца ад „стражы крэсовай“, узлезшы на бочку, пачаў гаварыць аба ўсіх карыснасьцях злучэньня з Польшчай, раздаліся сялянскія галасы: „аддайце нам раней нашага пробашча, а пасьля кажэце аб гэтым“...

Наагул арышт кс. П. зрабіў у барунскай парахфіі аграмаднае ўражэньне. І няма ведама, чаму больш трэба дзівіцца, ці бязтактнасьці нашай адміністрацыі, якая бяз дай прычыны арыштоўвае людзей, карыстаючыхся агульнай пашанай. ці сьлепаце нашых эндэкаў, якія провацыруюць яе на гэта.

Доказаў дзеля абвінавачаньня не было. Справу кс. П ліквідавалі. Зрабілося шмат шуму, страху—а дзеля чаго?! І пасьля 8-х месяцаў сьледзтва кс. П. пазволілі нарэшце вярнуцца дамоў,

Але, ён цяпер вольны. Але сталася крыўда, і яе паправіць ужо нельга. Сталася крыўда самому арыштаванаму, якога адарвалі ад яго працы, ад яго парахвіі, ад яго гаспадаркі. Сталася крыўда гэтаму люду, які праз гэтакі доўгі час ня меў свайго духоўнага правадыра. І сталася крыўда справе зблiжэньня нацыянальнасьцяў, якія жывуць на нашай зямельцы, бо кожны зьдзек над беларусам, кожная нацыянальная зьнявага, кожная несправядлівасьць дужэйшага, пакідаюць у нашых душах тую гор-

